**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№50 (714) 12 снежня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае















Хутка Новы год!



У Глыбокім на Цэнтральным пляцы ўсталявалі блакітную навагоднюю яліну. Яна прывезеная з вёскі Таргуны Докшыцкага р-на, ёй – 23 гады. Яліна – незвычайная! Нібы і яліна, але іголкі, чамусьці, як ў хваіны – даўжэйшыя, чым у блакітнай ці звычайнай яліны.
Гаспадару дома гэтая яліна замінала, давала цень, і ён даўно хацеў яе спілаваць, але вырашыў год пачакаць і прапанаваць Глыбоцкай ЖКГ па таннаму кошту. *Фота Ул. Скрабатуна.*

**Расонскі раён**

# У глыбінцы шмат праблем

■ **Станіслаў Раманчук**

**Апошнім часам кіраўніцтва краіны стаў асабліва непакоіць стан спраў у Віцебскай вобласці, якая адстае па многіх паказчыках ад астатніх рэгіёнаў.**

У пачатку зімы тут прайшоў другі этап маніторынга работы мясцовых органаў улады і арганізацый са зваротамі грамадзян, а ў Расонскім раёне - нават на працягу двух дзён. Разбірацца ў сутнасці праблем, якія хвалюють людзей, асабіста прыехаў старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю Беларусі Аляксандр Якабсон, які правёў "прамую тэлефонную лінію". Як высветлілася, і ў гэтай мясцовасці кіраўніцтва не гаворыць праўду, калі не атрымоўваецца вырашыць надзённыя праблемы насельніцтва, а займаецца звыклымі адпіскамі, без канкрэтыкі. Дарэчы, як заўважыў галоўны кантралёр краіны, большасць з паступіўшых 18 тэлефонных званкоў у кампетэнцыі мясцовых улад, але яны ігнаравалі жыццёвыя нязручнасці людзей. Жыхары Расоншчыны выказвалі незадаволенасць якасцю мясцовага хлеба, а іншыя гатункі сюды не дазваляюць завозіць. Таксама жыхароў гарпасёлка і раёна непакоіць, што прагулы час у райбальніцы няма ніводнага хірурга, які б праводзіў на месцы нават нескладаныя аперацыі. Мясцовае насельніцтва непакоіць стан дарог, непрафесіяналізм міліцыі, што сюды не пускаюць краму папулярнай гандлёвай сеткі "Еўраопт" і што адну са станцый тэхабслугоўвання аўтамабіляў размясцілі зусім блізка з жылым сектарам. Праўда, некалькі паступіўшых зваротаў грамадзян запатрабавалі дэтальнага разгляду на дзяржаўным узроўні. Старшыня Камітэта дзяржкантролю пагадзіўся з субяседнікамі, што не варта за прыватызацыю на вёсцы службовага жылля, якое эксплуатавалася 30-40 гадоў, плаціць ад 150 да 360 мільёнаў рублёў.

**Полацкі раён**

# Бедныя нашы бабулі

■ **Чэслаў Якубовіч**

**Ужо болей чым у 2 разы доля пажылых людзей у Беларусі перавышае парогавыя міжнародныя паказчыкі.**

Насельніцтва глыбінкі імкліва старэе і ўсё болей сам-насам застаецца са сваімі жыццёвымі праблемамі. Вось і ў Полацкім раёне расце колькасць і не толькі ў сельскай мясцовасці адзінокіх і адзінока пражываючых людзей, якім няпроста дажываць свой век. Адна з такіх мясцовых пенсіянерак днямі перажыла моцны стрэс, калі пасярод ночы чамусьці адкрыла дзверы хаты, калі да яе ў акно пастукалі двое знаёмых мясцовых хлопцаў. На сваю бяду старая жанчына ўпусціла ў пакой няпрошаных гасцей, якія абодва раней былі судзімыя. Пасля свайго візіту маладыя непрацуючыя лайдакі забралі адкрыта ў сялянкі 175 тысяч рублёў і добра яшчэ, што не пабілі пацярпелую. Аднак неўзабаве ім прыйдзецца адказваць за свае паводзіны, ды яшчэ па строгаму крымінальнаму артыкулу "грабеж". А вось у вёсцы Верхнія Марозы, што паблізу ад райцэнтра, з вялікім смуткам праводзілі ў апошні шлях 78-гадовую суседку. Няглядзячы на пажылы ўзрост, яна яшчэ трымала жыўнасць на падворку, карысталася аўтарытэтам і павагай у людзяй. Яе жыццё забраў агонь, а пажар узнік па невядомай пакуль прычыне глыбокай ноччу. На бяду, гэты дом стаяў на адлегласці некалькі соцень метраў ад астатніх, і аднавяскоўцы не бачылі, як запалала хата. Раніцай прыехала з горада праведаць маму дачка і ўбачыла жахлівы малюнак папялішча. Дарэчы, і ў горадзе старыя неабароненыя, а ў Наваполацку ў сваёй кватэры была забіта нажом пенсіянерка мясцовым жыхаром, які адбыў пакаранне ў калоніі за крадзяжы і вярнуўся дамоў.

**Віцебская вобласць**

# Служыць Госпаду і людзям

■ **Кастусь Александровіч**

**Сапраўды знакавым не толькі для хрысціянскіх вернікаў, але і для ўсёй грамадскасці Беларусі стала рашэнне Папы Рымскага Францыска аб прызначэнні трох даволі маладых беларускіх біскупаў.**

Каталікі Віцебшчыны дачакаліся нарэшце свайго духоўнага пастыра, ганаровы тытул атрымаў 41-гадовы ўраджэнец Браслава Алег Буткевіч. У гэтым райцэнтры яго ведаюць многія гараджане, як і тое, што ва ўзросце 22 гады ён скончыў у сталіцы Беларускі аграрна-тэхнічны ўніверсітэт і атрымаў дыплом інжынера. Аднак тады ў 1994 годзе па выбранай спецыяльнасці працаваць не стаў, а адчуў пакліканне да Бога і стаў вучыцца ў Гродзенскай вышэйшай каталіцкай Духоўнай семінарыі, якую паспяхова скончыў праз 6 гадоў. Потым была плённая душпастырская дзейнасць у каталіцкіх прыходах Мёраў, Наваполацка, Бешанковічах, Улы. Апошнім часам святар плённа працаваў у абласным цэнтры, дзе з закінутага будынка па свайму праекту адбудаваў прыгожы храм. У катэдральным касцёле папскі нунцый, архіепіскам Клаўдыё Гуджэроцці ўжо прадставіў ксяндзам з усіх парафій вобласці іх новага біскупа, які замяніў пайшоўшага ў адстаўку па стану здароўя свайго папярэдніка Уладзіслава Бліна. Афіцыйнае пасвячэнне ксяндза-біскупа Алега Буткевіча адбудзецца апоўдні 18 студзеня будучага года ў гэтай святыні, а ў краіне цяпер будуць служыць ужо 7 іерархаў у званні біскупаў.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 12.12.13 | | | | Пятніца 13.12.13 | | | | Субота 14.12.13 | | | | Нядзеля 15.12.13 | | | | Пнд.16.12.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -1 | +1 | +2 | +3 | +1 | +3 | +3 | 0 | -3 | -2 | -2 | -3 | -4 | -3 | -1 | -1 | -1 | +1 | +2 |
| Ціск | 753 | 752 | 751 | 749 | 746 | 744 | 747 | 751 | 752 | 753 | 756 | 757 | 758 | 757 | 755 | 754 | 752 | 751 | 752 |
| Вільготнасць | 94 | 97 | 99 | 96 | 80 | 89 | 77 | 77 | 88 | 73 | 54 | 67 | 67 | 65 | 59 | 85 | 91 | 94 | 94 |
| Вецер м/сек | 2 Пд-З | 4 Пд-З | 4 Пд-З | 5 З | 5 З | 6 З | 4 Пн-З | 4 Пн-З | 2 Пн-З | 3 Пн | 3 Пн-У | 1 Пн-У | 2 Пд-У | 4 Пд | 6 Пд | 4 Пд-З | 4 Пд | 5 З | 4 Пд-З |

# Аб самым надзённым

## АМАЛЬ 330 ТЫСЯЧ СВАІХ КВАТЭР БЕЛАРУСЫ ТАК І НЕ ПРЫВАТЫЗАВАЛІ, ІХ ЖЫЛЛЁ НЕЎЗАБАВЕ МОЖА СТАЦЬ КАМЕРЦЫЙНЫМ



■ **Аляксандр Цішкевіч**

**Характэрна, што ў самым багатым мегаполісе Мінску непрыватызаванымі застаюцца больш 13% кватэр сталічнага жылфонда. Быццам мінчане ў нас самыя разумныя, бо жывуць багацей астатніх, але чаму такія пасіўныя былі ў гэтым пытанні? Цяпер ім трэба аддаць на прыватызацыю, у залежнасці ад якасці кватэр і іх месцазнаходжання, ад 40 да 300 млн. рублёў.**

Па частцы непрыемных падзей і такіх жа сумных сюрпрызаў для суайчыннікаў бягучы год пабіў усе ранейшыя рэкорды. Ужо на ўсіх узроўнях пачалі гаварыць, што сітуацыя ў нас няпростая. Але людзям пра гэта ўжо і казаць не варта, бо нічога радаснага ў жыцці не адбываецца, нават малочныя прадукты пачалі знікаць пад вечар з паліц магазінаў ад сталіцы да ўскраін. Тыя ж мінчане не паспелі прывыкнуць да новых цэн на талончыкі ў кастрычніку (было 2 тысячы, а стала каштаваць паездка 2500 рублёў), як тут падаспела новае падаражанне.

У пачатку календарнай зімы праезд на грамадскім транспарце ў беларускай сталіцы зноў падаражэў на 20 % і нават у рэгіёнах праезд стаў каштаваць 2700 рублёў, а з вясны практычна падвоіцца. А яшчэ народу паведамілі, што асноўныя прагнозныя паказчыкі 2013 года правалены, бо урад з Нацбанкам Беларусі і мясцовыя органы кіравання пасіўныя (асабліва ў Віцебскай вобласці, як вынікала з матэрыялаў справаздачы аб рабоце эканомікі перад кіраўніком дзяржавы). На фоне такіх праблем і выбары ў нас, як заявілі, "будуць вельмі сур'ёзнымі".

Праўда, пераацэньваць значэнне прадстаячай 23 сакавіка 2014 года кампаніі па абранні новых мясцовых Саветаў дэпутатаў не варта. Большасць з нас, шчыра кажучы, і прозвішча свайго абранніка могуць не памятаць, ведаюць, што такія дэпутаты проста адбываюць свой тэрмін і фактычна не ўплываюць на развіццё падзей. Цяпер значна болей суайчыннікаў хвалюе, што да 1 ліпеня 2016 года ўсе службовыя і непрыватызаваныя кватэры ў Беларусі пярэйдуць у новы статус, у фонд арэнднага жылля. Упершыню пра гэта загаварылі сёлета яшчэ вясной, пасля чаго ў Мінску і абласных цэнтрах утварыліся чэргі, многія кінуліся падаваць заявы аб прыватызацыі сваіх кватэр.

Тут хвалявацца ёсць каму. Справа ў тым, што па дадзеных статыстыкі, у нашай краіне налічваецца практычна яшчэ 330 тысяч такіх вось непрыватызааных кватэр. Характэрна, што ў самым багатым мегаполісе Мінску непрыватызаванымі застаюцца больш 13% кватэр сталічнага жылфонда. Быццам мінчане ў нас самыя разумныя, бо жывуць багацей астатніх, але чаму такія пасіўныя былі ў гэтым пытанні? Цяпер ім трэба аддаць на прыватызацыю, у залежнасці ад якасці кватэр і іх месцазнаходжання, ад 40 да 300 мільёнаў рублёў.

Вось ужо і думай, бо стартавы першы ўзнос складае 10%, на гэту працэдуру прадастаўляецца растэрміноўка на 40 гадоў і пры афармленні можна накіраваць чэкі "Жыллё". Аднак час ляціць хутка, і думаць людзям застаецца яшчэ два з паловай гады, ці ісці на прыватызацыю. Канешне, у складаным становішчы па прыватызацыі кватэр апынуцца бедныя сем'і і яшчэ адзінокія, пажылыя людзі, інваліды. Іх жа потым могуць выселіць за неаплату стаўшага не свaім раптам камерцыйнага жылля.

Аднак гэта яшчэ непарадзе, тут аб будучым сваім трэба болей думаць маладым сем'ям, бо болей будаваць жыллё па льготных крэдытах не будуць ( такі спосаб прывёў краіну да абвальнай дэвальвацыі ў 2011 годзе). У рэальным жыцці яшчэ сотні тысяч беларусаў стаяць у чэргах на паляпшэнне жыллёвых умоў, а ў Мінску ўзнікла і новая чарга на арэнднае жыллё. Цікава, што тыя, хто стануць арэндаваць такія кватэры, адразу губляюць свае месца ў жыллёвай чарзе. Сёлета, дарэчы, за выключэннем беларускай сталіцы праграма жыллёвага будаўніцтва ў рэгіёнах правалена, і не ўсе праблемныя жылыя дамы-доўгабуды да канца года будуць здадзены ў эксплуатацыю.

Напрыканцы ж адыходзячага года таксама адбылося шэраг істотных падзей для беларусаў. У нас узялі курс найперш на ўзвядзенне арэнднага жылля. З пачатку новага года суды агульнай юрысдыкцыі і Гаспадарчыя суды аб'ядноўваюцца ў адзіную сістэму. У апошні момант індывідуальным прадпрымальнікам дазволілі гандляваць на рынках прадукцыяй легпрама па ранейшых правілах без сертыфікатаў якасці тавараў. Аднак гэта мера скончыцца 1 ліпеня 2014 года. А вось у першым квартале будучага года нам, хутчэй за ўсё, давядзецца пачуць аб адстаўцы ўрада на чале з М. Мясніковічам. Маральна айчынныя ўпраўленцы ўжо падрыхтаваны да непазбежных арганізацыйных і кадравых перастановак за правалы. Аднак нам ад гэтага лягчэй не стане, паколькі, сапраўды, "лішніх грошай няма" зараз у сінявокай нашай дзяржаве.

## Дзень за днём

**Прыкметай рэцэсіі айчыннай эканомікі стала скарачэнне сёлета валютнай выручкі на 6,5 млрд. долараў. Непрыватызаваныя беларусамі кватэры да 1 ліпеня 2016 года пяройдуць у фонд арэнднага жылля. У чарговы раз падаражэў праезд на грамадскім транспарце, на 10 % павысіліся цэны на хлеб, курынае мяса, яйкі, шэраг малочнай прадукцыі, на 15 % - размовы па тэлефоне. Газ у балонах для насельніцтва падаражэў у 2 разы. З новага года запланавалі павысіць кошт паслуг ЖКГ. Насельніцтва Мінска за апошні месяц вырасла на рэкордныя 5100 чалавек. Для дзясяткаў тысяч айчынных прадпрымальнікаў стане непад'ёмным гандаль прадукцыяй легпрама па новых тэхрэгламентах.**

# Важнейшыя навіны свету

**Германія.** Перад галасаваннем у бундэстагу правячая ХДС/ХСС дамовілася з СДПГ аб стварэнні кааліцыйнага ўрада, але дамову павінны падтрымаць радавыя сацдэмакраты.

**Украіна.** Пасля жорсткага разгону Еўрамайдана ў сталіцы на акцыі пратэсту і за адстаўку ўрада выйшла да паўмільёна чалавек, у адстаўку падаў глава кіеўскай міліцыі.

**Шатландыя.** Верталёт паліцыі вечарам нечакана рухнуў на папулярны піўны бар на беразе ракі ў горадзе Глазго, 8 чалавек загінула, шмат наведвальнікаў было паранена.

**Латвія.** Прэм’ер-міністр Валдзіс Дамброўскіс падаў у адстаўку пасля трагедыі з абрушэннем гіпермаркета “Махіма”, ён найболей кіраваў урадам у сучаснай гісторыі.

**Грузія.** Працэс еўрапейскай інтэграцыі і паяднання з Еўрасаюзам, як заявіў намеснік главы МЗС краіны Давід Залкаліяні, набыў незваротны характар праз дагавор аб асацыяцыі з ЕС

**Малдова.** Еўракамісія пагадзілася прадаставіць грамадзянам краіны права бязвізавага ўезду ў ЕС пры ўмове наяўнасці ў малдаван на руках біяметрычных пашпартоў.

**Польшча.** Глава МЗС краіны Радаслаў Сікорскі заявіў, што Расія пачне сур’ёзныя рэформы і сама істотна зменіцца, калі моцна ўпадуць сусветныя цэны на нафту.

**Бельгія.** Еўракамісар Штэфан Фюле пацвердзіў, што добрыя адносіны ЕС і Беларусі залежаць толькі ад вырашэння пытання вызвалення і рэабілітацыі палітзняволеных.

**Балгарыя.** Урад краіны вырашыў усталяваць уздоўж граніцы з Турцыяй трохметровы плот з калючага дроту для прадухілення нелегальнай міграцыі на працягу 30 км у гарах.

**Італія.** Адкрытым галасаваннем Сенат 192 галасамі пазбавіў паўнамоцтваў сенатара і дэпутацкага імунітэту былога прэм’ер-міністра краіны амаль 20 год Сільвіо Берлусконі.

**Германія**. Канцлер Ангела Меркель заявіла, што для Украіны дзверы ЕС застаюцца заўсёды адчыненымі, нягледзячы на адмову В. Януковіча падпісаць дамову аб асацыяцыі.

Йемен. Невядомыя ў сталіцы краіны Сане расстралялі двух беларускіх ваенных спецыялістаў, з іх адзін загінуў, яны працавалі па контракту пры Міністэрстве абароны.

**Расія.** Пазачарговы сход акцыянераў “Уралкалія” выбраў у савет дырэктараў высланага з Беларусі У. Баўмгертнера, якога змясцілі ў адзін са следчых ізалятараў Масквы.

**КНДР.** За апошнія 2 гады на падтрымку культа асобы сваіх правадыроў рэжым закрытай паўгалоднай краіны патраціў больш 500 млн. долараў на розныя пано, стэлы, помнікі.

**Ватыкан.** Папа Рымскі Францыск выступіў за карэннае абнаўленне каталіцкага касцёла, яго дэбюракратызацыю, заклікаў лідараў свету актыўней змагацца з беднасцю і голадам.

## У Беларусі ўводзяць індэксацыю тарыфаў на паслугі ЖКГ



■ Telegraf.by

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 5 снежня падпісаў Указ № 550 , які змяняе тарыфнае рэгуляванне жыллёва-камунальных паслуг і парадак аказання дзяржаўнай адраснай сацыяльнай дапамогі насельніцтву.**

Для кампенсацыі арганізацыям, якія аказваюць жыллёва-камунальныя паслугі, панесеных імі па аб'ектыўных прычынах выдаткаў і недапушчэння зніжэння акупнасці ЖКП прадугледжваецца індэксацыя тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі для насельніцтва. Павышэнне дзяржаўных тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі для насельніцтва будзе праходзіць штогод з 1 студзеня, зыходзячы з дапушчальнага росту плацяжоў насельніцтва за такія паслугі ў памеры, эквівалентным 5 долорам па сярэднегадавым значэнні абменнага курсу рубля да долара ў адпаведнасці з параметрамі прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на чарговы фінансавы год, у разліку на сям'ю з трох чалавек, якая жыве ў двухпакаёвай кватэры агульнай плошчай 48 квадратных метраў, пры нарматыўным спажыванні жыллёва-камунальных паслуг. Парадак разлікаў гэтых плацяжоў і ўзроўню кампенсацыі насельніцтвам затрат на аказанне жыллёва-камунальных паслуг будуць вызначаць міністэрства эканомікі, жылкамгаса, энергетыкі і фінансаў. Павелічэнне субсідыруюцца дзяржавай тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі для насельніцтва вышэй, чым рост плацяжоў будзе адбывацца па ўзгадненні з Прэзідэнтам Беларусі. Згодна з указам, тарыфы на жыллёва -камунальныя паслугі штоквартальна індэксуюцца на працягу фінансавага года ў памерах, якія не перавышаюць фактычна складўшагася індэкса намінальнай зарплаты па краіне за папярэдні квартал. Індэксацыя цэн і тарыфаў на газ, электра-і цеплаэнергію ажыццяўляецца Саветам міністраў, на паслугі па тэхнічнаму абслугоўванню, водазабеспячэнню, водаадвядзенню, карыстанню ліфтам - аблвыканкамамі і Мінгарвыканкамам па ўзгадненні з Мінэканомікі, на паслугі па вывазу, абясшкоджванні і перапрацоўцы цвёрдых камунальных адходаў - аблвыканкамамі і Мінгарвыканкамам. Такая дыферэнцыяцыя звязаная з перадачай указам ад Саўміна аблвыканкамам і Мінгарвыканкаму паўнамоцтваў па рэгуляванні тарыфаў на асобныя віды жыллёва-камунальных паслуг. Саўмін захоўвае рэгуляванне тарыфаў на паслугі газа-, электра-і цеплазабеспячэння, платы за карыстанне жылымі памяшканнямі ў інтэрнатах дзяржустаноўадукацыі. Аблвыканкамам і Мінгарвыканкаму перадаюцца функцыі рэгулявання тарыфаў на паслугі па тэхнічнаму абслугоўванню, капітальным рамонце, карыстанню жылымі памяшканнямі дзяржаўнага жылфонду, акрамя жылых памяшканняў камерцыйнага выкарыстання, водазабеспячэнню, каналізацыі, карыстанню ліфтамі. Для выключэння істотнага росту і значнага адрознення ў памеры тарыфаў па абласцях іх рэгуляванне будуць ажыццяўляць аблвыканкамы і Мінгарвыканкам па ўзгадненні з Мінэканомікі. Кантроль змены тарыфаў у памеры не вышэй заўстаноўленыя гранічныя абмежаванні будзе ажыццяўляць таксама Мінэканомікі .

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Па выніках года, як пацвердзіў намеснік міністра фінансаў М. Ермаловіч, дэфіцыт дзяржбюджэту Беларусі складзе 750 мільёнаў долараў, што ўскладняе працу бюджэтнага сектара.

**Салігорск.** З-за разрыву адносін з “Уралкаліем” раён згубіў статус самага багатага рэгіёна краіны, заробкі ў людзей зменшыліся ў сярэднім больш чым на 230 долараў у месяц.

**Жодзіна.** Пад жорсткую крытыку з боку Савета Міністраў Беларусі трапіла кіраўніцтва БелАЗа за неразваротлівасць на знешніх рынках збыту сваіх грузавых аўтамабіляў.

**Светлагорск.** Мясцовае ААТ “Хімвалакно” ўключылі ў спіс 101 стратэгічна важных для Беларусі прадпрыемстваў, якіх урад бярэ пад апеку і гарантуе абарону ад банкротства.

**Бабруйск.** Супраць эксгендырэктара мясцовага “Фандока” распачалі адразу 2 справы за злоўжыванне былым паўнамоцтвамі падчас мадэрнізацыі дрэваапрацоўчай вытворчасці.

**Мінск.** У прымусовым парадку з 1 студзеня 2014 года па Дэкрэту № 6 Вярхоўны і Гаспадарчы суды РБ аб'ядноўваюцца ў адзіную сістэму судоў агульнай юрысдыкцыі.

**Ждановічы.** Папулярны сярод насельніцтва рынак “Поле цудаў” па гандлю патрыманымі таварамі вырашылі не закрываць пасля завяршэння 10 студзеня работ па рэканструкцыі.

**Крупкі.** У суд паступіла справа 15-гадовага школьніка, які стрэліў з пнеўматычнага пісталета ў 13-гадовага таварыша, пасля чаго той застаўся без правага вока.

**Мінск.** КДБ Беларусі былым азмрочыў 60-гадовы юбілей экс-спікера парламента, віцэ-прэзідэнта НАКа У. Канаплёва, аднак ён абверг чуткі пра сваё затрыманне на трое сутак.

**Магілёў.** Супраць 20-гадовага вадзіцеля аўтапарка № 1 распачалі крымінальную справу за ўгон у свой выхадны дзень чужога аўтобуса калегі вадзіцеля, на ім ён урэзаўся ў слуп.

**Рагачоў.** Сям’і пенсіянераў з вёскі Ямнае міліцыя вярнула да іх залатога вяселля каня, якога раней судзімы за падобнае злачынства цыган украў 4 гады назад і прадаў.

**Гомель.** Суд пакараў 35-гадовага ўладальніка рэстарана 5 гадамі турмы, які на падпітку стаў віноўнікам дарожна-транспартнага здарэння, у ім загінуў 38-гадовы зямляк, пакінуты мярзотнікам без дапамогі.

**Ашмяны.** Пасля канцэрта “Ляпісаў” у Вільнюсе на літоўскай граніцы ў бок Беларусі ўзніклі зноў на пераходзе Каменны Лог велізарныя чэргі, беларусы спявалі песні.

**Баранавічы.** Раніцай, пагражаючы пнеўматычным пісталетам, 22-гадовы жыхар раёна скраў дастаўлены ДАІ на штрафную стаянку свой аўтамабіль, але быў потым затрыманы.

**Гродна.** У мясцовым ААТ “Гранітэкс” адкрыўся ўнікальны музей нітак, апроч іх у экспазіцыі калаўроты, верацёны, кросны, фота, швейныя машыны і ткацкія станкі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Прэзідэнт заявіў, што яго асабліва трывожыць стыль работы аблвыканкама, які правaліў мадэрнізацыю ільняной галіны, рэканструкцыю малочнатаварных ферм.

**Браслаў.** Новым біскупам Віцебскай дыяцэзіі Папа Рымскі прызначыў 41-гадовага ўраджэнца райцэнтра Алега Буткевіча, ён скончыў БАТУ перад вучобай на святара.

**Віцебск.** Гендырэктар ААТ “Віцязь” С. Гунько заявіў, што тэлезавод пераходзіць на выпуск у асноўным медтэхнікі новага тыпу, выраб тэлевізараў стане другарадным.

**Гарадок.** У раённым цэнтры з насельніцтвам каля 13 тысяч пачалі рыхтавацца да “Дажынак-2014”, тут павінны з’явіцца басейн, новы стадыён, лыжаролерная траса, зона адпачынку.

**Дуброўна.** На сучаснай кітайскай лініі на прыватным прадпрыемстве “БТ-сінтэз” выпусцілі першыя партыі сінтэпону, іх адгрузілі на швейныя фабрыкі сталіцы і Віцебска.

**Наваполацк.** На мясцовым хлебазаводзе перакрылі ўпаўшыя да 8 тон у суткі аб’ёмы выпечкі хлеба выпускам на новым абсталяванні да 20 тон у месяц кандытарскіх вырабаў.

**Расоны.** Падчас прамой тэлефоннай лініі гараджане паскардзіліся старшыні Камітэта дзяржкантролю Беларусі А. Якабсону, што ў райбальніцы няма аперыруючых хірургаў.

**Віцебск.** З пачатку года на дарогах вобласці знайшлі сваю пагібель 28 пешаходаў, яшчэ 52 жыхары былі паранены, адбылося 159 наездаў на людзей, з іх на 52 на спецпераходах.

**Мёры.** Пры дапамозе канцэрна “Белнафтахім” саўгас “Міёрскі” запусціў пасля рэканструкцыі коштам 22 млрд. рублёў сучасны малочны комплекс на 730 галоў кароў.

**Орша.** Следчы камітэт пачаў праверку па факту гібелі на “Легмашы” 55-гадовага вартаўніка, які днём упаў у шахту ліфта і пазней памёр ад траўм у гарбальніцы.

**Віцебск.** Існуючая сетка праваднога радыё ў Беларусі будзе захавана, як заявіў міністр інфармацыі РБ Алег Пралякоўскі пры наведванні абласной газеты “Витебские вести”.

**Бешанковічы**. Ноччу на пажары ў доме ў раённым цэнтры з-за праблем печы загінуў 22-гадовы хлопец, які толькі некалькі дзён назад вярнуўся на радзіму пасля службы ў арміі.

**Полацк.** Жыхарка горада прыехала праведаць 78-гадовую маці ў вёску Верхнія Марозы, а застала толькі яе абгарэлы труп на папялішчы, суседзі не заўважылі пажар пасярод ночы.

**Віцебск.** На плошчы Перамогі з’явілася галоўная навагодняя ёлка вобласці вышынёй 35 метраў з металаканструкцый, дапоўненых 150 жывымі яснымі прыгажунямі і гірляндамі.

**Мёры.** Раніцай ва ўласным доме ў райцэнтры знайшлі труп 64-гадовага мужчыны, яго забіў нажом 35-гадовы псіхічна хворы сын, інвалід 2-й групы, забойца быў затрыманы.

*Служба інфармацыі “ВГ”.*

# Алесь Адамковіч абараніў доктарскую дысертацыю



Алесь Адамковіч са сваёй кнігай «Беларусы ў Літве: учора і сёння. Кніга 1».

**Наш зямляк Алесь Адамковіч 4 снежня ў Вільні абараніў доктарскую дысертацыю па тэме «Анамастычныя кантакты балцкіх і славянскіх моваў у Віцебскай вобласці».**

Алесь Адамковіч стаў доктарам філалагічных навук! Віншуем!

Нагадаем, Алесь Адамковіч да 2002 года жыў у м. Германавічы і працаваў у мясцовым музеі культуры і быту імя Я. Драздовіча: спачатку галоўным захавальнікам фондаў, потым навуковым супрацоўнікам.

Матэрыялы Алеся Адамковіча на краязнаўчыя тэмы неаднойчы размяшчаліся на старонках газеты «Вольнае Глыбокае» і сайце ***Westki. info.***

# Дзень адкрытых дзвярэй у РАУС

**Андрэй Аўчароў,**
*старэйшы інспектар групы кадраў Глыбоцкага РАУС.*
Фота І.Шышко.




28 лістапада ў аддзеле ўнутраных спраў Глыбоцкага райвыканкама быў арганізаваны Дзень адкрытых дзвярэй. У госці да супрацоўнікаў міліцыі разам са сваім класным кіраўніком Ватыкінай Галінай Анатольеўнай прыйшлі навучэнцы 11А класа ўстановы адукацыі «Дзяржаўная агульнаадукацыйная сярэдняя школа № 1 г. Глыбокае». Для дзяцей была арганізавана экскурсія, правялі якую намеснік начальніка РАУС па ідэалагічнай працы і кадраваму забеспячэнню Шышко Ігар Пятровіч і начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх Баран Юры Іванавіч. Школьнікі не толькі пазналі пра спецыфіку працы вартавых парадку і прайшліся па кабінетах райаддзела, але і азнаёміліся з арсеналам спецсродкаў, якія ўжываюцца міліцыяй, у прыватнасці, маглі прымерыць на сябе ахоўны шлем, бронекамізэльку і ўзяць у рукі адмысловы шчыт, правесці няпоўную разборку пісталета і аўтамата. У мэтах прафілактыкі правапарушэнняў было арганізавана наведванне ізалятара часавага ўтрымання асобаў, затрыманых ці змешчаных пад вартай.

Адмысловую цікавасць выклікала інфармацыя пра парадак паступлення на службу ў органы ўнутраных спраў, бо маладым людзям неўзабаве трэба абраць далейшы жыццёвы шлях, а пры паступленні ў Акадэмію МУС і Магілёўскі вышэйшы каледж МУС ёсць пэўныя асаблівасці. Усю неабходную інфармацыю пра ўмовы прыёму можна знайсці на адпаведных сайтах устаноў адукацыі, а таксама звярнуўўшыся ў групу кадраў Глыбоцкага РАУС.

Дарэчы, 14 снежня 2013 года ва УУС Віцебскага аблвыканкама адбудзецца Дзень адкрытых дзвярэй з мэтай прафесійнай арыентацыйнай працы па паступленні ў Акадэмію МУС Рэспублікі Беларусь і Магілёўскі вышэйшы каледж МУС Рэспублікі Беларусь. Пачатак мерапрыемства ў 11 гадзін 00 хвілін па адрасе: г. Віцебск, праспект Фрунзе, д. 41-А.

Такія сустрэчы выпускнікоў школ з кіраўніцтвам аддзела сталі ў нашым раёне ўжо традыцыйнымі, праводзяцца на працягу некалькіх апошніх гадоў і, безумоўна, даюць дадатны эфект для прафілактыкі правапарушэнняў сярод непаўналетніх і для якаснага камплектавання аддзела.

# Як патрапіць у Слабодку?

■ **Зміцер Лупач**




**Новая аўтастанцыя ў Браславе.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

**Жыхары Даўгаўпілса, а таксама Браслаўшчыны, дамагліся аднаўлення руху аўтобуса ў Слабодку. Такой была рэакцыя на іх зварот у Браслаўскі райвыканкам.**

Зварот ад жыхароў паступіў у Браслаўскі райвыканкам 18 лістапада гэтага года, паведаміла Людміла Кастыгова, начальнік аддзела па працы са зваротамі грамадзян. Сутнасць звароту ў тым, што ў суботу няма аўтобусаў у накірунку вёскі Слабодка, і жыхары Даўгаўпілса і іншых населеных пунктаў, што прыязджаюць у Браслаў на выхадныя, не могуць патрапіць у гэты населены пункт.

Даехаць да Слабодкі можна было аўтобусам Браслаў – Друя, але па суботах гэты рэйс адмянілі. Адмена адбылася ў выніку аптымізацыі аўтобуснай сеткі, звязанай са стратнасцю прыгарадных перавозак.

Пасля звароту грамадзян кіраўніцтва браслаўскага аўтапарку прыняло рашэнне з 14 снежня арганізаваць рух аўтобусаў да Слабодкі па суботах. Рашэнне будзе дзейнічаць на працягу трох месяцаў. За гэты час плануецца вывучыць пасажырапаток на гэтым маршруце, каб у выніку прыняць канчатковае рашэнне.

Рух аўтобусаў па суботах па маршруце Браслаў-Слабодка будзе адбывацца па наступным графіку: адпраўленне з аўтастанцыі г. Браслава – у 13.00 з прыбыццём у в. Слабодка ў 13.25; са Слабодкі – у 13.30, прыбыццё ў Браслаў у 14.00.

Нагадаем, што Слабодка – вёска ў Браслаўскім раёне, паміж азёрамі Поцех, Недрава, Ільмёнак, на аўтадарозе Браслаў-Друя на адлегласці 9 км ад Браслава. У Слабодцы знаходзяцца лабараторыя азёразнаўства БДУ, турысцкая база Нацыянальнага парку «Браслаўскія азёры», летнія базы адпачынку, прыгожы касцёл. На жаль, сярод насельніцтва нашага рэгіёна Слабодка больш вядома сваёй псіхіятрычнай бальніцай.

# Большасць адміністрацыйных раёнаў Беларусі маюць нізкі або надзвычай нізкі ўзровень канкурэнтаздольнасці

**Сярод 118 адміністрацыйных раёнаў Беларусі 49 маюць нізкі і 47 — вельмі нізкі ўзровень канкурэнтаздольнасці. Аб гэтым заявіў загадчык рэгіянальнага цэнтра па Магілёўскай вобласці Навукова-даследчага эканамічнага інстытута Міністэрства эканомікі Генадзь Рыдзеўскі ў сваім выступленні на IV міжнародным форуме «Імідж Рэспублікі Беларусь: выгоды і шляхі дасягнення», які праходзіў у Мінску 5-6 снежня.**

Паводле слоў Рыдзеўскага, 16 раёнаў маюць сярэдні ўзровень канкурэнтаздольнасці, шэсць - высокі. Лідарам па канкурэнтаздольнасці з'яўляецца Салігорскі раён, на апошнім месцы размясціўся Свіслацкі раён Гродзенскай вобласці.

Як патлумачыў спецыяліст, высокі і сярэдні ўзроўні канкурэнтаздольнасці характэрныя для рэгіёнаў, на тэрыторыі якіх размешчаны вялікія гарады з высокім узроўнем сацыяльна-эканамічнага развіцця.

У цэлым усе раёны Беларусі падзелены на тры групы: ключавыя рэгіёны, рэгіёны міжраённага значэння і базавыя рэгіёны, расказаў Рыдзеўскі. Паводле яго слоў, ключавыя рэгіёны займаюць 20% плошчы краіны, але на іх тэрыторыі пражывае 65% насельніцтва. «Гэта ядро эканамічнай магутнасці нашай дзяржавы», — падкрэсліў спецыяліст.

Базавыя рэгіёны займаюць найбольшую плошчу краіны, але маюць найменшы эканамічны і дэмаграфічны патэнцыял, расказаў Рыдзеўскі. Уплыў рэгіёнаў міжраённага значэння, паводле яго слоў, выходзіць за рамкі канкрэтнага рэгіёну і распаўсюджваецца на суседнія тэрыторыі.

Індэкс канкурэнтаздольнасці ключавых рэгіёнаў складае 1,254, у рэгіёнаў міжраённага значэння ён у 1,8 разоў і ў базавых - у тры разы ніжэйшы, чым у ключавых рэгіёнаў, паведаміў вучоны.

Паводле яго слоў, для ацэнкі канкурэнтаздольнасці ўлічваліся больш чым 6,5 тыс. першасных статыстычных паказчыкаў. Рэгіён любога іерархічнага ўзроўню можа разглядацца як тэрыторыя, якая канкуруе з іншымі тэрыторыямі ўнутры краіны і на знешніх рынках. «Рэгіён можа разглядацца ў гэтым плане як квазікампанія», — адзначыў Рыдзеўскі.

Рэгіёны могуць канкурыраваць за інвестыцыі і стварэнне спрыяльных умоў для ўстойлівага развіцця, патлумачыў спецыяліст. У выніку канкурэнцыі кожны рэгіён, як квазікампанія фарміруе свой уласны імідж або вобраз, адзначыў ён.

***Анастасія Салановіч, БелаПАН.***

# Набылі моц папраўкі ў Выбарчы кодэкс

**Папраўкі ў Выбарчы кодэкс набылі моц 8 снежня. Адно з галоўных нspráv... **

**Папраўкі ў Выбарчы кодэкс набылі моц 8 снежня. Адно з галоўных навацыяў дакумента, якое будзе прымяняцца ўжо на мясцовых выбарах 2014 года, — забарона на заклікі да байкоту выбараў.**

У другім чытанні папраўкі ў некаторыя законы па пытаннях правядзення выбараў і рэферэндумаў былі прынятыя Палатай прадстаўнікоў 13 лістапада, пасля ўхвалення дакумента верхняй палатай парламента яго 25 лістапада падпісаў Прэзідэнт.

Закон прадугледжвае шэраг навацыяў. Так, прапаноўваецца правядзенне выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў у адзін тур, пры гэтым пераможца ў іх будзе вызначацца па прынцыпу аднаснай большасці.

Прадугледжваецца змяніць парадак фінансавання выбарчых кампаній. У прыватнасці, на прэзідэнцкіх выбарах будзе павялічаны з трох да дзевяці тысяч базавых велічыняў памер асабістага фонду кандыдата. Пры гэтым фарміраваць яго можна будзе не пасля рэгістрацыі кандыдата, а з моманту рэгістрацыі яго ініцыятыўнай групы. Змяняюцца абмежаванні пры ўнясенні ў фонд асабістых сродкаў кандыдата. Памер выбарчага фонду кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў застаецца ранейшы - адна тысяча базавых велічыняў, на мясцовых выбарах у залежнасці ад узроўню савета - да 10 і да 30 базавых велічыняў.

Разам з тым, прадугледжваецца, што кандыдату не будуць выдзяляцца бюджэтныя сродкі на выраб перадвыбарных матэрыялаў. Вызваленыя пры гэтым сродкі будуць накіраваны на выраб выбарчымі камісіямі інфармацыйных матэрыялаў аб кандыдатах. Інфармацыйныя матэрыялы будуць выдавацца кожнаму выбаршчыку з паведамленнем аб даце і часе галасавання.

Згодна з законапраектам пры правядзенні выбарчых кампаній і кампаній па рэферэндуме ўводзіцца забарона на ўчыненне дзеянняў, якія падштурхоўваюць да зрыву, адмены ці пераносу тэрміну выбараў, рэферэндуму.

Дакумент таксама абмяжоўвае кола асоб, якія маюць права падаваць заявы аб паўторным падліку галасоў. Зараз гэты пералік нявызначаны, але па новым законе такое права даецца толькі кандыдатам і выбарчым камісіям.

Прадугледжана ўстанавіць межавы 10-дзённы тэрмін падачы зваротаў аб парушэнні выбарчага заканадаўства пасля правядзення выбараў ці рэферэндуму.

Апрача таго, законапраект дапаўняе пералік пытанняў, якія не могуць выносіцца на рэспубліканскі рэферэндум, указанным на ўстанаўленне, змяненне і адмену збораў (пошлін).

На найбліжэйшых выбарах, якія маюць адбыцца ў Беларусі, - дэпутатаў мясцовых саветаў - папраўкі ў выбарчае заканадаўства адаб'юцца не надта істотна. Заклікаць да байкоту падчас гэтай кампаніі няма асаблівага сэнсу з-за адсутнасці парога яўкі выбаршчыкаў.

Разам з тым, ва ўладаў будзе магчымасць пры неабходнасці адтачыць новаўвядзенні выбарчага заканадаўства. Адначасова з выбарамі дэпутатаў мясцовых саветаў пройдуць паўторныя выбары па Гомельскай-Навабеліцкай выбарчай акрузе № 36, паколькі падчас парламенцкіх выбараў 2012 года дэпутат ад яго абраны не быў.

Найбольш значная папраўка ў Выбарчы кодэкс, якая закранае мясцовыя выбары, тычыцца фінансавання выбарчых кампаній кандыдатаў. Зараз яны не будуць атрымліваць з дзяржаўнага бюджэту сродкі на выраб агітацыйных матэрыялаў. Давядзецца разлічваць на асабісты выбарчы фонд, памер якога ў залежнасці ад узроўню савета можа дасягаць 10 ці 30 базавых велічыняў (1 млн. 300 тыс. і 3 млн. 900 тыс. беларускіх рублёў адпаведна).

Варта зазначыць, што пасля прыняцця законапраекта ў першым чытанні дэмакратычныя партыі і арганізацыі зрабілі спецыяльную заяву, у якой гаварылася, што беларускія ўлады ігнаруюць іх прынцыповыя прапановы, скіраваныя на стварэнне мінімальных заканадаўчых гарантый для правядзення сумленных і справядлівых выбараў.

На думку апазіцыі, гэтыя папраўкі ў Выбарчы кодэкс «не набліжаюць, а аддаляюць Беларусь ад магчымасці правядзення свабодных, справядлівых і празрыстых выбараў».

*Сяргей Каралевіч, БелаПАН.*



**Лебедзі засталіся зімаваць у Глыбокім.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

# Кошты на бензін у Беларусі зраўняліся з расійскімі

Пасля чарговага павышэння коштаў на паліва, якое 5 снежня правёў дзяржаўны канцэрн «Белнафтахім», цэны на бензін у Беларусі сталі такімі ж, як у Расіі. Па дадзеных Расстата, у канцы лістапада сярэдні кошт літра АІ-92 у Расіі дасягаў 29,67 расійскага рубля, а АІ-95 - 32,74 расійскага рубля.

У Беларусі ж з 5 снежня бензін АІ-92 у пераліку на расійскія рублі па курсе Нацыянальнага банка на 5 снежня будзе каштаваць 29,73 рубля, а АІ-95 - 32,92 рубля.

Як паведамляў Тэлеграф, у Беларусі з 5 снежня бензін АІ-95- К5 падаражэў на 200 рублёў да 9300 рублёў, АІ-92-К3 - на 200 рублёў да 8400 рублёў. У сярэднім ўсё аўтамабільнае паліва падаражэла на 2%.

***telegraf.by***

# Маркетынгу гарадоў у краіне практычна няма, заявіў арганізатар форуму «Імідж Рэспублікі Беларусь: выгады і шляхі дасягнення»

**Маркетынгу гарадоў у краіне практычна няма, заявіў генеральны дырэктар цэнтра стратэгічнага развіцця «Маркетынгавыя сістэмы», арганізатар IV Міжнароднага форуму «Імідж Рэспублікі Беларусь: выгады і шляхі дасягнення» Анатоль Аканцінаў 5 снежня на прэс-канферэнцыі ў межах форуму.**

«Ёсць ініцыятыўныя групы, ёсць нейкія пажаданні, але сур'ёзнага маркетынгу ў прынцыпе няма, таму што няма замоўцы і няма пастаноўкі задач. Ёсць проста ініцыятывы», - адзначыў ён.

Паводле слоў Аканцінава, у распрацоўцы і прасоўванні рэгіянальных брэндаў існуе пытанне, «хто замоўца і хто павінен за гэта плаціць». «Форум - адзін з інструментаў, які з году ў год уздымае гэтае пытанне, не дае яму астыць», - падкрэсліў ён.

Яшчэ чатыры гады таму «ніхто не разумеў, што такое наогул тэрытарыяльны маркетынг», а цяпер ужо праводзяцца фестывалі, вядзецца распрацоўка рэгіянальных брэндаў, адзначыў Аканцінаў. «Гэтыя спробы, можа быць, дзесьці няўдалыя, але яны ідуць. Бізнесу таксама трэба ўсвядоміць, у чым выгада, - яны пакуль гэтага не бачаць», - растлумачыў спецыяліст.

На форуме разглядаюцца канкрэтныя прыклады атрымання прыбытку пры распрацоўцы брэндаў. «Я спадзяюся, што прадстаўнікі выканкамаў убачаць гэтую выгаду і пачнуць думаць аб гэтым. Мы пакуль ставім невялікую мэту - хаця б у галовах навесці парадак», - падкрэсліў ён.

У якасці станоўчага прыкладу дырэктар медыяхолдынга SMG Пётр Папялушка прывёў праект па стварэнні брэнда Брэста да святкавання 1000-годдзя горада, якое адбудзецца ў 2019 годзе. Паводле яго слоў, праект фінансаваў былы брэстаўчанін, які жыве і працуе ў Маскве. «Гэта прыватная ініцыятыва, тут ідзе работа з выканкамам і іншае, - адзначыў Папялушка. - Я спадзяюся, што такіх прыкладаў будзе больш і больш, таму што акрамя нас саміх ніхто нам не дапаможа».

*Анастасія Салановіч, БелаПАН.*

# Больш за ўсё ў лістападзе ў Беларусі падаражэлі бульба і паслугі дашкольных устаноў

**Цэны на харчовыя тавары ў Беларусі ў лістападзе 2013 года выраслі на 1,2 працэнта ў параўнанні з кастрычнікам, адносна снежня 2012 года яны павялічыліся на 10,9 працэнта. Аб гэтым паведамілі БЕЛТА ў Нацыянальным статыстычным камітэце.**

У лістападзе ў параўнанні з папярэднім месяцам зноў патаннеў алей – на 1 працэнт. Цана на цукар засталася на ранейшым узроўні.

Менш чым на 1 працэнт падаражэлі каўбасныя вырабы і вэнджаніна, алкагольныя напіткі (на 0,3 працэнта), крупы і бабовыя (на 0,5 працэнта), мяса і птушка, рыбныя кансервы (на 0,7 працэнта), малако і малочныя прадукты, а таксама тытунёвыя вырабы (на 0,9 працэнта). Самае вялікае падаражанне адзначана ў лістападзе па агародніне – 4,6 працэнта, пшанічнай муцэ – на 5,3 працэнта, бульба стала даражэйшая на 5,6 працэнта.

Цэны на нехарчовыя тавары ў лістападзе ў параўнанні з кастрычнікам павялічыліся на 0,6 працэнта, са снежнем 2012 года – на 6,8 працэнта. У гэтай групе тавараў не адбылося вялікіх змен цэн. На 1 працэнт падаражэла мэбля, сінтэтычныя мыйныя сродкі - на 1,1 працэнта, медыкаменты – на 1,3 працэнта. На астатнія тавары падаражанне склала менш за 1 працэнт. Цэны на бензін засталіся без змен.

Індэкс цэн і тарыфаў на платныя паслугі ў лістападзе ў параўнанні з кастрычнікам склаў 103,7 працэнта, са снежнем 2012 года – 132,6 працэнта. Цэны на турыстычныя паслугі выраслі на 0,6 працэнта, медыцынскія – на 0,8 працэнта. Бытавыя паслугі падаражэлі на 2,1 працэнта, паслугі пасажырскага транспарту – на 2,6 працэнта. Цэны на жыллёва-камунальныя паслугі выраслі на 4 працэнты, паслугі культуры – на 4,9 працэнта, сувязі – на 7,2 працэнта, паслугі дашкольных устаноў – на 16 працэнтаў. Не змяніліся цэны на паслугі вышэйшай адукацыі, а таксама санаторна-аздараўленчыя паслугі.

У цэлым у Беларусі індэкс спажывецкіх цэн на тавары і паслугі ў лістападзе 2013 года ў адносінах да верасня склаў 101,6 працэнта, да снежня 2012-га – 113,8 працэнта. У студзені 2013 года цэны выраслі на 3 працэнты, у лютым – на 1,2 працэнта, сакавіку – на 1,1 працэнта, красавіку – на 0,5 працэнта, маі – на 0,7 працэнта, чэрвені – на 0,3 працэнта, ліпені – на 1 працэнт, жніўні – на 0,1 працэнта, верасні – на 1,7 працэнта, у кастрычніку – 1,9 працэнта.

*Таццяна Грыгаровіч - БЕЛТА.*

# У лістападзе адток з банкаў рублёвых укладаў насельніцтва спыніўся

**Зніжэнне тэрміновых рублёвых укладаў, якое назіралася ў беларускіх банках у кастрычніку, у лістападзе спынілася, сведчаць статыстычныя даныя. Тэрміновыя рублёвыя ўклады насельніцтва выраслі ў лістападзе ў банкаўскай сістэме на 2,3%, ці на 534,3 млрд. рублёў, да 23,3 трлн. рублёў.**

Як адзначаюць банкіры, рост укладаў, які паказвае статыстыка, абумоўлены налічанымі працэнтамі. «Рэальнага росту рублёвых дэпазітаў няма, а існуе стабільная дынаміка. Вядома, лістападаўскія даныя лепшыя ў параўнанні з кастрычніцкімі, калі без уліку капіталізацыі працэнтаў у банках назіраўся адток тэрміновых рублёвых укладаў насельніцтва», — пракаментаваў БелаПАН лістападаўскія даныя топ-мэнэджар аднаго з банкаў.

Ён звярнуў увагу, што цяпер стаўкі па рублёвых дэпазітах застаюцца на высокім узроўні, і таму, нягледзячы на дэвальвацыйныя чаканні, многія ўкладчыкі працягваюць захоўваць зберажэнні ў нацыянальнай валюце.

«Калі зыходзіць з таго, што дэвальвацыя будзе не разавай, а павольнай і расцягнутай у часе, то цяперашні ўзровень працэнтных ставак (45% гадавых) выгадны для ўкладчыкаў нават у выпадку размяшчэння кароткатэрміновых дэпазітаў», — адзначыў топ-мэнэджар банка.

На 1 снежня дэпазіты насельніцтва ў банках (уключаючы тэрміновыя і пераводныя перавышалі 100 трлн. рублёў, прычым дзве траціны ўкладаў прыходзіліся на валютныя зберажэнні фізасоб.

*Дзмітрый Заяц, БелаПАН.*

